


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 10 (644)**
**Кастрычнік 2019 г.**




## Запрашаем на прэзэнтацыю літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа "БЕЛАРУС" за 2019 год,

якая адбудзецца **2-га лістапада 2019 году** падчас лістападаўскага сходу Згуртаваньня "Пагоня" ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу: ***123 East 15th Street, New York, NY 10003.*** Пачатак сходу а **6-й** гадзіне вечара.

На імпрэзу прыйдуць выдаўцы і шмат хто з аўтараў выданьня, прысутныя змогуць пазнаёміцца зь імі, задаць пытаньні, атрымаць аўтографы і набыць новы нумар альманаха па зьніжанаму адмыслова для прэзэнтацыі кошту.

**Калі ласка, падтрымайце аўтараў і выдаўцоў замовамі і зацікаўленасьцю!**

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$17**, з дасылкаю ў Канаду, Вялікабрытанію і Францыю **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**.

Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:
***Marat Klakotski, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735 USA***
Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

Замовіць новы нумар, так і ўсе папярэднія, можна і праз інтэрнэт, наведаўшы старонку ***e-krama.com.*** У гэтым, трынаццатым ад часу заснаваньня, нумары прадставілі свае творы наступныя аўтары:

**АКУЛІЧ Адам**. *Успаміны*.
**ВАРАБЕЙ Ірына**. Агухана. *Пераклад*.
**ВОРАНАЎ Віталь**. *Кароткія гісторыі*.
**ГРЫГАЛЬЧЫК Пятрусь.** *Апавяданьне і вершы*.
**ДАВЫДЗЕНКА Зьміцер**. Новыя ўражаньні ад гарадоў. *Вершы*.
**ЗАЙКА Віталь.** *Апавяданьне*.
**ЗЯНОН**. *Вершы, успаміны, зацемка*.
**КАБАНАВА Сьвятлана**. *Вершы*.
**КАВАЛЕЎСКІ Віктар**. Абэзза срабрыстая. *Апавяданьне*.
**КРАЖОВА Марына.** *Вершы і* Дзёньнік АнаМКара.
**ЛАПАТКА Якуб.** *Пераклады паэзіі і нататкі*.
**ЛІЯКУМОВІЧ Цімох.** *Апавяданьні*.
**МАРЦІНС Ванда.** *Вершы*.
**МУРЗЁНАК Пётра.** *Вершы*.
**ПАЗЬНЯК Галіна.** *Успаміны*.
**ПАНІЗЬНІК Сяргей.** Памятныя даты 2019 года.
**ПРАНЦЭВІЧ Анатоль.** Эвангельле для цыганскага барона. *Пераклад*.
**СНАРСКАЯ Іна.** *Зацемкі-ўспаміны*.
**СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук.** Грак-2. *Працяг і* Дзёньнік Асісты.
**ТАРАНОВІЧ Алесь.** *Кароткія апавяданьні і нарыс*.
**ХАДАРЭНКА Ірына.** *Пераклады паэзіі*.
**ХАЦКЕВІЧ Аляксандар.** Замак на ўзгорку. *Заканчэньне аповесьці*.
**ШАМЕЦЬКА Юрась.** *Вершы розных гадоў*.
**ШАТЫЛОВІЧ Дзьмітры.** Мая першая замежная экскурсія. *Успамін*.
**ШЧУР Макс.** *Грамадзянская лірыка*.
**ЭСЬПІНОСА РУІЗ Анхэля**. Маёй душы дзьмухавец. *Паэма*.
**ЯКІМОВІЧ Валянціна.** *Зацемкі-ўспаміны*.



# Верасьнёўскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 21 верасьня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў пра нядаўнія імпрэзы "Пагоні", а таксама пра пляны на бліжэйшыя месяцы, у тым ліку прэзэнтацыю альманаху "Беларус" за 2019 год, што мусіць адбыцца 2 лістапада. Сп. Зайка коратка апісаў мэты й прынцыпы арганізацыі для тых, што першы раз прыйшлі на сход "Пагоні", і заклікаў прысутных знаёміцца, абменьвацца інфармацыяй пра жыцьцёва патрэбныя справы: працу, вучобу, жытло і г. д. "Праз узаемную падтрымку і дапамогу вы мацуеце беларускую прысутнасьць у Нью-Ёрку і ў Амэрыцы".

Наступна сп. Зайка прадставіў гасьцей сходу, навукоўцу-гісторыка Натальлю Гардзіенка зь Менску і дасьледчыка-літаратуразнаўцу сп. Лявона Юрэвіча з Брукліну. Абодва яны зьяўляюцца ўкладальнікамі й рэдактарамі трох выйшаўшых сёлета кнігаў па гісторыі беларускай іміграцыі ў ЗША. У іх ліку – манаграфія пра гісторыю найбуйнейшай беларускай арганізацыі ў ЗША Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), напісаная сьв. пам. Зьмітром Саўкам, гісторыкам і дасьледчыкам іміграцыі, пад назваю "Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзесят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня 1949-1999", і таксама кніга пра дзьве найбольш значныя і ўплывовыя газэты беларускай паваеннай эміграцыі: "Бацькаўшчына", што выходзіла ў Мюнхэне, Нямеччына, з 1947 па 1966 год, і "Беларус", што пачаў выходзіць у Нью-Ёрку ў 1950 годзе і выдаецца да сёньня. Таксама зусім нядаўна, літаральна некалькі тыдняў таму, выйшла кніга "Зора" – пра культурніцкую і грамадзкую дзяячку беларускай грамады Амэрыкі, Зору Кіпель (1927-2003).



Натальля Гардзіенка

Першай узяла слова госьця зь Менску сп-ня Натальля Гардзіенка. Яна сказала пару словаў пра сябе, сваю дасьледчую працу, якая распаўсюджваецца ня толькі на ЗША, але на беларускія грамады па ўсім сьвеце. Натальля зьяўляецца супрацоўніцай Беларускага архіву-музэю літаратуры й мастацтва ў Менску, а таксама сяброўкаю Беларускага Інтстыту Навукі й Мастацтва (БІНіМ) у ЗША, і мае шэраг публікацыяў па гісторыі беларускай дыяспары ў Вялікай Брытаніі, Аўстраліі, Нямеччыне, ЗША і Канадзе. Прамоўца пачала зь першай кнігі, прысьвечанай Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню, і распавяла пра асобу яе аўтара, Зьмітра Саўкі, гісторыка, перакладчыка і бібліёграфа, што пэўны час жыў у Амэрыцы і быў добра знаёмы з прадстаўнікамі беларускай грамады ў ЗША. Сп-ня Гардзіенка азнаёміла прысутных са структураю кнігі, дзе знайшлося месца для ўсіх арганізацыяў беларускай дыяспары ў Амэрыцы, для "Гадавога цыклю Базаўца" – сьвятаў і памятных датаў, шанаваных на эміграцыі. "Час і геаграфія – ад канца 1940-х да канца 1990-х гадоў, ад Чыкага да Каліфорніі. Прыводзяцца падрабязныя зьвесткі пра рэлігійныя й грамадзкія структуры беларусаў у Амэрыцы, пра аддзелы БАЗА, пра публікацыі, імпрэзы, пра рэгулярныя штодвухгадовыя Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Другая частка кнігі – гэта ўспаміны самых іміграпнтаў пра жыцьцё ў Беларусі й Амэрыцы, што пасьпеў запісаць сам Зьміцер Саўка падчас свайго побыту ў Амэрыцы. Таксама важным рэсурсам ёсьць добры біяграфічны даведнік, пададзены ў канцы кнігі". Укладальніца і рэдактарка кнігі выказала спадзяваньне, што цяперашняму пакаленьню маладых іміграпнтаў зь Беларусі будзе неабыякае гэтае выданьне, што

***заканчэньне на наступнай бачыне***



# Наша гісторыя

## Да 80-годзьдзя аб'яднаньня Заходняй Беларусі з БССР і СССР.

Сярод чужых войнаў, зьдзёрстваў ворагаў, падзелу Беларусі і акупацыяў дзень 17 верасьня 1939 году стаў выпадкам, калі гісторыя на імгненьне павярнулася да нас тварам. Гэтая падзея ад нас не залежала, але рэальна яна аб'яднала нацыю і ўратавала адзінства краіны, хоць, як і ўсё дагэтуль, каштавала нам вялікай ахвярнай крыві і тысячаў ахвярных жыцьцяў.

У гісторыі Беларусі XX стагодзьдзя самай чорнай падзеяй быў Рыскі падзел 1921 году, калі аслабленая краіна была ліквідавана, падзелена і нацыю мэтанакіравана нішчылі з абодвых бакоў. Калі б не вайна – пэрспэктывы нацыянальна выжыць і аднавіць нацыянальную незалежнасьць у беларусаў ужо амаль не было б.

З гледзішча гістарычнага адзінства краіны акт савецкай акупацыі аб'ектыўна стаўся чыньнікам аб'яднаньня Беларусі і фактам аднаўленьня гістарычнай справядлівасьці, зьнішчанай у 1921 годзе. Так гэта трэба ўспрымаць, бо так гэта было. Аб'яднаньне пад савецкай акупацыяй каштавала нашаму народу пакутаў і страт, бо, як і падзел, сталася вынікам чужой вайны, тым самым адкрыла надзею дзяржаўнай незалежнасьці і адраджэньня.

Такая ёсьць наша беларуская гісторыя.

*17 верасьня 2019 г.* **Зянон ПАЗЬНЯК**

---

***заканчэньне з бачыны 2***

расказвае і паказвае жыцьцё іхных папярэднікаў, якія прыехалі ў Амэрыку пасьля Другой сусьветнай вайны і збудавалі, можна сказаць, першыя трывалыя падваліны для беларускай прысутнасьці ў ЗША. Сп-ня Гардзіенка распавяла таксама пра кнігу "Газэты "Бацькаўшчына" і "Беларус". Выбранае" – гэтая кніга ўяўляе сабою своеасаблівую анталёгію беларускага нацыянальнага, грамадзкага і культурніцкага жыцьця на чужыне ад канца 1940-х гадоў па сёнешні дзень. Гэтыя два выданьні сталі сілаю, што яднала беларускую эміграцыю, фармавала яе палітычныя і грамадзкія пагляды, несьла веды па гісторыі, літаратуры, этнаграфіі роднага краю, даносіла навіны з Бацькаўшчыны ды з іншых грамадаў беларусаў, у тым ліку на Падляшшы й Беласточчыне. "Як і дасюль мы маем спрэчкі й дыскусіі пра тое, кім ёсьць беларусы, што складае беларускую ідэю і нацыянальную сьведамасьць, так і ў першыя часы на эміграцыі беларускія людзі імкнуліся асэнсаваць сябе, сваю ролю і пазыцыю ў сьвеце і свае нацыянальныя карані. Таму значная частка матэрыялаў з абедзьвух газэтаў была прысьвечаная гэтым і да сёньня актуальным тэмам. Мы вырашылі зрабіць падборку тэкстаў па гэтай тэматыцы, што былі апублікаваныя ў разгляданых газэтах, але не зьяўляліся перадрукамі з іншых крыніцаў, а арыгінальнымі творамі. Тэксты акрамя разгляду нацыянальнай ідэі таксама зьмяшчаюць палеміку з савецкімі ідэолягамі й прасавецкімі асяродкамі ў Вольным Сьвеце і ў ЗША. У 1950-я-1960-я гады савецкая прапаганда імкнулася пашырыць рэпатрыяцыйны так званы рух "за вяртаньне на Радзіму", і выдавалася на розных мовах, і ў тым ліку па-беларуску, газэта з гэткай жа назваю. Асобаў, што падтрымлівалі Саветы і купляліся на савецкую агітацыю, тады называлі "завяртанцы". Хоць нейкая колькасьць людзей, пераважна з Эўропы й Аргентыны, сапраўды вярнулася ў Савецкую Беларусь, сярод амэрыканскай беларускай грамады іх былі адзінкі."

Затым прамоўца спынілася на самай нядаўняй кнізе "Зора". "Хоць я ня ведала Зору Купель асабіста, але шмат чула пра яе жыцьцё і працу ад шаноўнага вэтэрана беларускай грамадзкай дзейнасьці ў ЗША навукоўца-гісторыка др. Вітаўта Кіпеля. Зора Кіпель была дачкою вядомага журналіста Лявона Савёнка, што ў 1930-я гады пацярпеў ад сталінскага перасьледу "нацдэмаўшчыны". З бацькамі яна выехала вайною зь Беларусі, жыла ў ДП-лягерох, вучылася ў Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі. Па адукацыі хімік, Зора скончыла пасьля пераезду ў ЗША таксама школу бібліятэказнаўства, і потым плённа працавала ў Славянскім аддзеле Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі, а таксама вяла актыўную грамадзкую дзейнасьць сярод беларусаў Нью-Ёрку і Нью-Джэрзі. Зора Кіпель займалася таксама дасьледваньнем сярэднявечнай беларускай літаратуры і пераклала на ангельскую беларускую старажытную "Аповесьць пра Трышчана". У кнізе адлюстраваныя ўсе бакі дзейнасьці Зоры Кіпель, сабраныя яе працы, у тым ліку ў галіне бібліяграфіі й літаратуразнаўства, і таксама ўключаныя ўспаміны яе пра часы дзяцінства й вайны, пераезд у Амэрыку і пра падарожжы на Бацькаўшчыну ў 1990-я гады.

Натальля Гардзіенка пасьля спынілася на супрацы з дасьледчыкам гісторыі беларускай грамады ў Амэрыцы др. Вітаўтам Кіпелем, распавяла пра кантакты беларускіх дзеячаў, у прыватнасьці Вітаўта Кіпеля і Янка Запрудніка, з архівам-музеем літаратуры й мастацтва ў Менску, і дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, што рэгулярна выдае свае "Запісы" – адзіны пэрыёдык, альманах, прысьвечаны гісторыі й літаратуры беларускай дыяспары. Потым Н. Гардзіенка распавяла пра наступныя выдавецкія пляны, сярод бліжэйшых ёсьць выданьне кнігі-альбому пра беларускія нэкропалі ў сьвеце, што таксама зьяўляюцца вялікай, але маля-вядомай часткай нашай культуры, і заклікала прысутных дапамагчы ў зборы сродкаў для ажыцьцяўленьня гэтага выданьня. "Калі атрымаецца, кніга выйдзе ў наступным годзе". Затым выступоўца адказала на шматлікія пытаньні.

Затым са сваімі думкамі пра стан досьледаў беларускай эміграцыі выступіў калега і суаўтар Натальлі Гардзіенка сп. Лявон Юрэвіч. Ён адзначыў важнасьць вывучэньня беларускай іміграцыі для разуменьня і захаваньня беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы, і адзначыў, што як бы хто хацеў ці не хацеў, але ўсе тыя беларусы, што сёньня апынуліся ў ЗША ёсьць частка гісторыі эміграцыі, і яны таксама трапяць у працы гісторыкаў, можа ўжо наступнай генэрацыі. Па словах прамоўцы, "важна захаваць для вечнасьці ня толькі "Ягайлаў зь мячамі" (жартоўная спасылка на помнік літоўскаму князю й польскаму каралю Ягайлу ў Сэнтрал-Парку), але і тых звычайных працаўнікоў, што знайшлі новае жыцьцё ўдалечы ад Бацькаўшчыны, але не забыліся пра яе". Сп. Л. Юрэвіч таксама зьвярнуўся да прысутных з прапановаю падтрымаць праект выданьня кнігі-альбому пра беларускія нэкропалі на чужыне.

Затым з інфармацыяй пра свой фільмовы праект перад прысутнымі выступіла сп-ня Насьця Сергіеня, яна распавяла пра асаблівасьці творчай дзейнасьці ў галіне кінематографу і пра сцэнарыстку фільму вядомай цяпер рэжысэркі зь Беларусі Дар'і Жук, Хельгі Ландаўэр, што ўзялася дапамагаць у праекце. Сп-ня Сергіеня распавяла пра кампанію па краўд-фандынгу (народнаму збору грошай праз сеціва) для свайго праекту і запрасіла далучыцца да падтрымкі.

Сп-ня Ганна Шарко распавяла пра дзейнасьць інтэрнэт-суполкі "Беларусы ЗША. Разам лягчэй", што нядаўна правяла беларускі пікнік у Проспэкт-Парку, і запрасіла прысутных на канэцэрт гурта "Стары Ольса" напачатку кастрычніка ў Нью-Ёрку.

Затым ў разьдзеле "Featured" прагучэлі аб'явы і паведамленьні, адбыліся знаёмствы з гасьцямі аддзелу. Прысутныя мелі нагоду працягнуць калегаваньне пры віне і прысмаках.

**Віталь ЗАЙКА**

## “Адукацыйнае” відэа BBC

Брытанская карпарацыя BBC нядаўна выпусьціла відэа для школьнікаў 9-12 гадоў, у якім сьцьвярджаецца, што, акрамя жанчын і мужчын, існуе яшчэ больш за сто палоў чалавека. Гэтая стужка адна зь дзевяці дапамаговых відэа, што будуць выкарыстоўвацца ў брытанскіх школах.

Такі дапаможнік цалкам ўпісваецца ў сучасную ілжывую сыстэму прапаганды гендэрнай разнастайнасьці, якая атручвае дзіцячую сьвядомасьць ад самага раньняга ўзросту. Крытыкі адразу абвінавацілі BBC у тым, што кампанія патурае распаўсюду дэзынфармацыі, бо праца журналістаў павінна абапірацца на факты, а не прыдумкі. Байкі пра мноства палоў – зманлівая бессэнсоўная прапаганда, якая сьцірае традыцыйныя сэксуальныя нормы і пацяху становіцца неафіцыйнай грамадзкай палітыкай ня толькі ў Вялікай Брытаніі, але ў ЗША і па ўсім сьвеце.

Але каму і для чаго гэта патрэбна? Паступовы, амаль незаўважны, працэс пачаўся, калі ў ангельскай мове агенты ўплыву пачалі замяняць граматычным тэрмінам “gender” біялягічны тэрмін “sex”. Мэта зразумелая – праграмаваньне сьвядомасьці. Такая замена зьнішчае біялягічны кампанэнт адрозьненьня жанчынаў і мужчынаў і адкрывае дзьверы эзатэрычнаму кампанэнту, які дазваляе адмаўляць рэальнасьць і дае глебу для стварэньня альтэрнатыўнай рэальнасьці.

Людзі, якія заяўляюць, што належаць да нейкага іншага полу адрознага ад іхных біялягічных прыкметаў, ёсьць мэнтальна хворымі. І доказы таму высокі ўзровень дэпрэсіі, неспакой, разлады харчаваньня, самагубстваў у гэтай групы людзей. Такія разлады псыхікі ва ўсе вякі лічыліся хваробамі і даволі пасьпяхова лячыліся адпаведнымі спэцыялістамі.

Калі нейкая асоба глядзіць на сябе ў люстэрка і бачыць там істоту супрацьлеглага яе біялягічным прыкметам полу, то ён ці яна стварае альтэрнатыўную рэальнасьць. Людзі, якія дабраахвотна паддаюцца такой штучнай рэальнасьці, вельмі лёгка трапляюць пад уплыў і вядуцца палітыкамі, і гэта робіць іх рабамі дзяржавы.

А BBC і ўсе іншыя, хто пашырае трансгендэрную хлусьню, гэтаму спрыяюць.

***Я. З.***

## Грэта паблажліва злуецца



У мінулым месяцы мы ўсе змаглі пазнаёміцца з Грэтаю Тунбэрг, дзяўчынаю-падлеткам з мэнтальнымі адхіленьнямі са Швэцыі, якая кінула школу і правярнула найбольшы прапагандысцкі трук у кульце змагароў са зьменаю клімату ад часу заснаваньня гэтага культу. Спачатку яна натхніла 1,4 мільёны школьнікаў з 112 краінаў сьвету кінуць заняткі і выйсьці пратэставаць супраць “зьмены клімату”. Тады яна ўзыйшла на борт “кліматычна дружалюбнага” карабля і зь вялікім розгаласам перасякла Атлянтыку і прыбыла ў ЗША і ААН.

У ААН яе дзівоцтва стала яшчэ недарэчнейшым. Хіба ўпершыню ў гісторыі гэтай арганізацыі дзіця было прадстаўлена сапраўдным экспэртам па клімату і яму дазволілі неверагодную дэклямацыю, якая заклікала ўрады зрабіць немагчымыя захады для зьмякчэньня “зьмены клімату”. Яна павучала з трыбуны: “Сваімі пустымі словамі вы ўкралі мае мары і маё дзяцінства. Але мне яшчэ пашчасьціла. Людзі пакутуюць. Людзі паміраюць. Абвальваюцца цэлыя экасыстэмы. Мы ў пачатку масавага выміраньня. І ўсё, пра што вы можаце гаварыць, гэта грошы і байкі пра вечны эканамічны рост. Як вы асьмельваецеся!”

Тады гэтая дзяўчынка з фільму жахаў дадала да папярэдне выказанай купы глупстваў заяву, што “зьніжэньне выкідаў удвая цягам наступных дзесяці гадоў – гэта занадта мала і занадта позна, каб зьберагчы плянэту для такіх як яна”. Праўдападобна, Тунбэрг шчыра верыць у гэтыя глупствы.

Але ўсё гэта няпраўда. Людзі не пакутуюць і не выміраюць ад зьмены клімату, экасыстэмы не абвальваюцца. Толькі дзецям прамываюць мазгі гэтымі выдумкамі штодня. І ці варта зьдзіўляцца, чаму сучасныя дзеці такія няшчасныя і схільныя да самагубстваў.

Яе мары і дзяцінства не былі ўкрадзеныя людзьмі, якія добра бачаць, што запалохваньне зьменаю клімату ёсьць суцэльным падманам. Калі яе мары і дзяцінства і былі некім скрадзеныя, то зрабілі гэта менавіта тыя махляры, што прапіхваюць ідэю канца сьвету ўжо сорак зь нечым гадоў, і яе ідыёты-бацькі, якія не змаглі навучыць яе нічаму лепшаму.

***Я. З.***

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| В. Балашчэнка | 60 |
| В. Барцэвіч | 60 |
| В. Біліда | 60 |
| Д. Біліда | 60 |
| А. Лапцёнак | 60 |
| З. Манчук | 60 |
| А. Несьцераў | 60 |
| Г. Несьцерава | 60 |
| А. Пазьняк | 60 |
| С. Сіткевіч | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

***Шаноўныя сябры!*** *Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”. Стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.*

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **12 кастрычніка 2019 г.** а **6-й** вечара ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| А. Адамчык | 30 |
| В. Біліда | 30 |
| З. Манчук | 30 |
| Л. Місевіч | 30 |
| Г. Несьцерава | 30 |
| А. Пазьняк | 30 |
| Н. Сергіеня | 30 |
| С. Сіткевіч | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

*Паважаны **сп. Віталь Красьнік**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі “Вестак і Паведамленьняў” ваш дакладны паштовы адрас.*